www.nv-online.info

**№ 76 (4021)**

29 верасня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПЕРАМОВЫ

## Лукашэнку рэкамендавалі «пераарыентаваць палітыку»

*"Мы не павінны перакладаць свае пазыкі на будучыя пакаленні",* – напісаў Аляксандр Лукашэнка ў сваёй выбарчай праграме і паабяцаў, калі застанецца прэзідэнтам, скараціць знешні дзяржаўны доўг. Аднак ці не першае, што зрабіў кіраўнік Беларусі, прыляцеўшы ў Нью-Ёрк на Генасамблею Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, – звярнуўся ў Міжнародны валютны фонд.

Зразумела, не дзеля таго, каб гаварыць кампліменты кіраўніцы фонду Крысцін Лагард. Аказваецца, нягледзячы на абяцанні пагашаць даўгі, а не набіраць новыя крэдыты, Беларусь разлічвае заняць у МВФ 3 мільярды долараў. Нядаўна ў Мінску працавала місія фонду і падрыхтавала свае рэкамендацыі-ўмовы, пры выкананні якіх наша краіна можа разлічваць на крэдыт. І гэта – не абяцанкі-цацанкі і напісанне законаў, якія могуць быць ніколі не выкананы, а сапраўды глыбокія эканамічныя рэформы. У прыватнасці, скарачэнне фінансавання дзяржпраграм, рэфармаванне сектара дзяржпрадпрыемстваў, прыватызацыя, павышэнне тарыфаў ЖКГ, павышэнне дапамогі па беспрацоўі, бо "рэфармаванне" не можа не выклікаць закрыцця прадпрыемстваў, якія не здольны працаваць у рынкавых умовах без грашовай дапамогі дзяржавы. Зразумела, што ўсё гэта і ёсць тая самая "шокавая тэрапія", непрыемная і хваравітая, без якой эканоміку не "вылечыць". Мінску, зразумела, хацелася б атрымаць крэдыт, але з сапраўднымі рэформамі пацягнуць.

Як можна зразумець з паведамлення прэс-службы МВФ па выніках сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі і Крысцін Лагард, кіраўнік Беларусі, па сутнасці, прасіў аб змякчэнні ўмоў выдаткавання грошай. Але ў адказ пачуў параду "пераарыентаваць палітыку".

Карацей, без рэформаў грошай не будзе.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ЗВАРОТ

## Давайце вернем слову «выбары» яго сапраўднае значэнне!

**Шаноўныя сябры выбарчых камісій!**

Вы робіце важную і адказную працу – лічыце галасы, якія мы аддаём за лепшую будучыню для нас з вамі і нашых родных. Калі ласка, выканайце яе сумленна!

Усе мы любім нашу Беларусь і хочам бачыць яе свабоднай, незалежнай, квітнеючай краінай з высокім узроўнем жыцця. Мы хочам, каб нашы дзеці і ўнукі атрымлівалі адукацыю і працавалі ў сваёй краіне, каб жанчыны і мужчыны мелі годны заробак і заможную старасць. Мы маем права і ўсе магчымасці жыць так жа добра і вольна, як людзі ў суседніх еўрапейскіх краінах. Мы з вамі шмат працуем і намагаемся зрабіць усё магчымае для дабрабыту нашых сем'яў, але гэтага недастаткова. Нам патрэбна адказная і зменная ўлада.

Сёння ў Беларусі крызіс. Крызіс у эканоміцы. Крызіс даверу да ўлады. Многія людзі ўжо не вераць у тое, што ўладу можна змяніць шляхам выбараў.

У адказны момант падліку галасоў вас у чарговы раз могуць зрабіць саўдзельнікамі працэсу фальсіфікацыі вынікаў. Дайце шанц нам усім. Давайце вернем слову «выбары» яго сапраўднае, істотнае значэнне.

Мы просім вас зрабіць усё, як мага, для прадухілення падману і фальсіфікацый:

– падпісвайце бюлетэні, прызначаныя выключна для выдачы выбаршчыкам;

– уключайце ў спісы для галасавання толькі рэальных людзей, выключыце «мёртвыя душы»;

– сачыце за спробамі незаконнага ўкідвання бюлетэняў, перашкаджайце ім;

– лічыце асобна бюлетэні з кожнай скрыні для галасавання за кожнага кандыдата і аб'яўляйце вынікі ўслых;

– падпісвайце толькі запоўненыя бланкі выніковых пратаколаў;

– далучыце да пратакола камісіі сваё асобае меркаванне, калі вы не згодны з яе рашэннем;

– дайце магчымасць назіральнікам прысутнічаць пры падліку галасоў побач з вамі.

Не дазваляйце нікому прымусіць вас парушыць закон. Маніпулятары здолеюць ухіліцца ад адказнасці, пераклаўшы ўвесь цяжар віны на вас, звычайных выканаўцаў. Памятайце, што за парушэнне выбарчага заканадаўства прадугледжана адміністрацыйная і крымінальная адказнасць без тэрміну даўнасці (арт.192 КК). Не бойцеся супрацьстаяць! Мы не павінны шкадаваць аб кожных мінулых выбарах як аб часе страчаных магчымасцяў для нашых дзяцей і краіны!

Устрымайцеся ад удзелу ў фальсіфікацыях і спыніце вашых калег.

Выбаршчыкі аб'ядноўваюцца для грамадскага кантролю за выбарамі. Будзьце іх саюзнікамі і не замінайце ім. Зрабіце ўсё, што ад вас залежыць, каб галасы выбаршчыкаў былі падлічаны сумленна і вынік адлюстроўваў наш сапраўдны выбар!

**Антаніна КАВАЛЁВА (АГП),**
**Галіна СКАРАХОД (рух "За Свабоду"),**
**Надзея САЛАЎЁВА (Партыя БНФ),**
**Іна ВАРАЎКА (партыя "Справядлівы свет"),**
**Таццяна СЕВЯРЫНЕЦ (аргкамітэт па стварэнні партыі БХД)**
**і іншыя.**

ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

## З запасам

У спісы для галасавання на прэзідэнцкіх выбарах унесены 6 мільёнаў 995 тысяч выбаршчыкаў.

Пра гэта паведаміў Цэнтрвыбаркам.

Між тым з тыдзень таму гэтая жа структура прыняла рашэнне аб друкаванні 7 мільёнаў 285 тысяч выбарчых бюлетэняў. Навошта?

ОФИЦИАЛЬНО

## Белорусская атомная станция заработает в 2018 году

***Запустить собираются, правда, первый энергоблок и при участии иностранных специалистов. Об этом сообщил заместитель директора Департамента по ядерной энергетике Министерства энергетики Василий Полюхович во время онлайн-конференции на сайте БЕЛТА.***

Согласно документам МАГАТЭ, персонал, который будет работать на ключевых должностях АЭС, должен быть подобран за два года до ввода энергоблока в эксплуатацию. Что касается запуска первого энергоблока Белорусской АЭС, то объект, по словам Полюховича, будет укомплектован в том числе 69 высококвалифицированными иностранными специалистами, имеющими значительный опыт практической работы на действующих АЭС. Речь идет о главном инженере и его заместителях, руководителях основных технологических цехов и ведущих специалистах. *«Рядом с ними будут подготовленные белорусские специалисты, которые смогут приобрести соответствующий опыт и использовать его при пуске второго энергоблока»*, – отметил Василий Полюхович.

Как уточнил заместитель главного инженера по подготовке персонала Белорусской АЭС Владимир Горин, к работе на блочном пульте управления первым энергоблоком привлекут специалистов с опытом работы на АЭС России и Украины, имеющих опыт запуска АЭС «Тяньвань» в Китае и АЭС «Бушер» в Иране.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Як спекулянты зарабляюць на футболе

***Сталічная міліцыя канфіскавала квіткі на матчы Лігі чэмпіёнаў на 50 мільёнаў рублёў.***

Сёння барысаўскі БАТЭ правядзе на "Барысаў-Арэне" матч групавога этапа з італьянскай "Ромай", 20 кастрычніка згуляе на хатнім стадыёне са славутай "Барселонай". Высветлілася, што да гэтых гульняў рыхтуюцца не толькі футбалісты.

Як паведамляе прэс-служба ГУУС Мінгарвыканкама, за мінулы тыдзень аператыўнікі аддзелаў па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі разам з падаткавікамі выявілі некалькі перакупшчыкаў, якія прадавалі квіткі на хатнія матчы БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў.

На ўсіх правапарушальнікаў склалі пратаколы за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Канфіскаваныя квіткі вярнулі ў касы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



## У віры жыцця

...Гады бяруць сваё, здароўе не тое, што калісьці. Але зірніце на гэты здымак, паглядзіце ў вочы, на ўсмешку Ніла Сымонавіча Гілевіча, і вы скажаце: так, заўтра яму – 84, але пры чым тут пашпартныя дадзеныя? Калі, насуперак узросту і розным навалам, ён па-ранейшаму ў віры жыцця і памкнёны да людзей, дыхае, як заўжды, адным дыханнем са сваёй Бацькаўшчынай, дбае аб будучыні. Па-ранейшаму народны паэт са сваім народам, таму і не выпускае з рук пяра. Напэўна, і ў гэты тоўсты сшытак, што трымае зараз, лягуць радкі новых вершаў, публіцыстычных выступленняў, занатовак думак і пачуццяў Творцы. Колькі яму яшчэ хочацца зрабіць!

Кожны дзень народзінаў Ніла Гілевіча – юбілейны, неюбілейны – свята для тых, для каго ён піша. Яшчэ загадзя ў "Народную Волю" ідуць паштоўкі, тэлефанаванні, тэлеграмы з просьбай перадаць сардэчныя віншаванні і найлепшыя пажаданні слыннаму сыну Беларусі. А заўтра, як і заўжды ў такія дні, у кватэры паэта тэлефоны будуць аж падскокваць ад звонкіх салютаў у гонар дарагога чалавека.

Шчыра далучаемся да нашых чытачоў і змяшчаем для прыкладу толькі адно кароткае віншаванне.

**Рэдакцыя "Народнай Волі".**

## Заўтра – дзень народзінаў Ніла Гілевіча

Паважаны Ніл Сымонавіч!

З днём народзінаў!

Здароўя Вам, моцы Вашаму Таленту, з'яўлення новых твораў, жыццёвага аптымізму!

Перамога непазбежная, хаця, на жаль, яна крыху маруднейшая, чымсьці нашы мроі... Трымайцеся! Мы Вас любім.

**Валерый Казіміравіч МЕНДЫК і мой сын Юрый.**

*Мінск.*






ДОСЛОВНО

### Александр ЯРОШУК, председатель Конгресса демократических профсоюзов:

*«Я не оракул, но повторюсь: ситуация будет иметь непредсказуемый характер. Сейчас белорусская экономика не в состоянии платить работникам более 250 долларов. Даже 200 вряд ли потянет.*

*За 20 лет с чего начинали – туда и вернулись. При этом потеряли впустую столько времени. Это тот вызов, который в ближайшее время и будет диктовать социально-экономическую и политическую ситуацию в Беларуси».*

*Третий день мировой темой номер один является Генеральная Ассамблея ООН. В ней принял участие и А.Г.Лукашенко. Его выступление по-разному комментируется в печатных и электронных средствах массовой информации. Например, приверженцы «Хартии'97» камня на камне не оставляют, комментируя многие его пассажи. В то время как белорусский официоз изо всех сил убеждает читателей, слушателей и зрителей в том, что речь Александра Григорьевича – сильнейшее воззвание к мировому сообществу.*

*«Народная Воля» считает, что в таких случаях главное – дать людям полную, всеобъемлющую информацию. Не вырывать из контекста отдельные фразы и комментировать их, исходя из заангажированности того или иного СМИ, а представить полный, без сокращений текст выступления А.Лукашенко с трибуны ООН.*

*Читайте, анализируйте, делайте выводы… Появится желание высказаться по этому поводу на страницах «Народной Воли» – рады будем!*



## Александр ЛУКАШЕНКО: Неужели, вступив в новое тысячелетие, мы так и не поняли, как хрупок мир и человеческая цивилизация?



Фрагмент зала во время выступления А.Лукашенко с трибуны ООН.

Уважаемый господин председатель, дамы и господа!

Устойчивое развитие любой страны невозможно без мира и безопасности. Эту непреложную истину белорусский народ сполна познал на своей судьбе. В минувшем веке Беларусь стала местом самых кровопролитных сражений двух мировых войн. Поэтому мы придаем особое значение предотвращению военных конфликтов и угрозы жизни людей. Потеряв в войне с фашизмом треть населения, Беларусь возродилась из пепла и свято бережет мир и согласие в обществе, стремится обеспечить благополучие народа и стабильное развитие государства.

За годы суверенного существования наша страна с честью выполнила те цели тысячелетия, которые связаны с ликвидацией голода и нищеты, достижением стопроцентной грамотности населения, равенством мужчин и женщин, социально-политической стабильностью, с недопущением дискриминации по национальным, религиозным признакам. У нас нет материнской смертности. Детская смертность самая низкая в мире. Именно это и есть демократия, а не то, что пытаются насадить нам наши западные учителя.

К сожалению, этого нельзя сказать о нашей планете в целом. Мир пришел к саммиту, к сожалению, разобщенным, разделенным как никогда за последние три десятилетия. Планету сотрясают многочисленные вооруженные конфликты, террористические акты. Печально то, что рост глобальных угроз не находит адекватного ответа. Нам до сих пор не удалось восстановить тот баланс сил, который был утерян с распадом Советского Союза. Нет баланса сил – нет мира и нет стабильности. Это системный кризис. В любой системе сила, если она является единственной, действует бесконтрольно, стремится только к своему процветанию и решению проблем за счет других. Политика гегемонизма, национального эгоизма приводит к широкому использованию давления, санкций, ограничений и военным акциям. Как результат – мы теряем доверие друг к другу. Примеры открытого политического хамства, лжи и преступлений против человечности на поверхности.

Давайте вспомним недавние факты. Под предлогом наличия ядерного оружия в Ираке известные государства решили демократизировать Ирак. И где это ядерное оружие? Где демократия в Ираке? Зачем убили президента Ирака? Где вообще эта страна и какое будущее иракского народа? На территории этого государства людям стало жить лучше? Нет. Вы, виновные, скажете, что ошиблись, надо бы остановиться. Но опять же нет, пошли дальше. Начали с Туниса и закончили Ливией. Сценарий – тот же. Распяли президента Каддафи, уничтожив государство. В Ливии стало лучше? Нет. И где эта Ливия вообще как целостное государство? Господа, может быть, хватит? Нет. Рванули в Сирию. Спрашивается: зачем? Зачем убиваете людей, зачем свергаете действующего президента? Чем он вам не угодил? Более того, бойней в этой стране вы стираете первые следы нашей с вами цивилизации. Скажите мировому сообществу чего вы хотите и к чему вы стремитесь. Как раз случай. С этой трибуны Генеральной Ассамблеи ООН.

Украинский кризис. Если не остановим кровопролитие в Европе, братоубийственную бойню, допустим эскалацию этого конфликта – жарко будет всему цивилизованному миру. Простите меня, сделаем еще один шаг к глобальному конфликту, а возможно, к новой мировой войне уже в центре цивилизованного и продвинутого мира. Неужели, вступив в новое тысячелетие, мы так и не поняли, как хрупок мир и человеческая цивилизация? Я сказал это не для того, чтобы перечислить известные события, а чтобы сильных мира сего подвести к одной мысли: понятно, сегодня нет той силы, которая бы вас остановила, но ведь главы государств, совершающие кощунство, все верующие, даже многие публично, молятся, но Господь видит все. И он справедлив. А если разозлится и накажет виновных? Вас, ваши народы, которые пострадают безвинно за ваши авантюры. Думаю, надо остановиться, надо помочь людям бедных стран одеться, вылечиться, получить образование. Накормите голодных! Спасите от гибели детей, и вам воздастся.

**(Окончание на 5-й стр.)**

РЭГІСТРАТУРА

## Медыкам – інтэрнат

*– Мінгарвыканкам прыняў рашэнне аб будаўніцтве для медыцынскіх работнікаў яшчэ аднаго інтэрната сямейнага тыпу на тэрыторыі Заводскага раёна і жылога дома ў Першамайскім раёне,* – паведаміў старшыня камітэта па ахове здароўя Мінгарвыканкама **Ігар Юркевіч.**

Гэта ўжо трэці інтэрнат для медыкаў, пабудаваны ў сталіцы за апошнія гады. І, аказваецца, нашы медработнікі рады і такой увазе з боку ўлад. Ва ўсялякім разе Ігар Юркевіч адзначыў, што ўвод у эксплуатацыю ў 2013 і 2014 гадах двух інтэрнатаў кватэрнага тыпу стаў істотнай дапамогай у прыцягненні кадраў ва ўстановы аховы здароўя Мінска. Тады жыллё атрымалі 360 чалавек.

На дадзены момант на ўліку для паляпшэння жыллёвых умоў стаяць звыш 1000 медыкаў, якія працуюць ва ўстановах аховы здароўя, падведамасных Мінскаму камітэту па ахове здароўя.

